# Шаноўныя калегі!

## 2 - 3 сьнежня адбудзецца Трэці кангрэс Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі.

Разам з пленарнымі паседжаньнямі на кангрэсе плануецца правядзеньне сямі круглых сталоў па наступных накірунках:

- ***Экалягічныя арганізацыі***
- ***Сацыяльныя арганізацыі***
- ***Адукацыйныя і асьветніцкія арганізацыі***
- ***Праваабарончыя арганізацыі***
- ***Рэсурсавыя цэнтры і інфармацыйныя цэнтры***
- ***Культурніцкія й краязнаўчыя арганізацыі***
- ***Жаночыя арганізацыі***

Адначасна, у першы дзень кангрэса Асамблеі, прадугледжваецца правядзеньне выставы арганізацыяў - сябраў Асамблеі, на якой арганізацыі змогуць прадставіць сваю дзейнасьць, рэалізуемыя праекты, плянуемыя мерапрыемствы, а таксама пазнаёміцца з дзейнасьцю іншых арганіацыяў і займець непасрэдныя кантакты.

### ПАРАДАК ДНЯ АСАМБЛЕІ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ НЯЎРАДАВЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

**2 сьнежня**

9.00 - 10.00 - Рэгістрацыя ўдзельнікаў
10.00 - 10.45 - Адкрыцьцё Кангрэсу і выступленьне старшыні Рабочай групы
10.45 - 11.10 - Галасаваньне па пытаньні заснаваньня Асамблеі, як асацыяцыі грамадзкіх арганізацыяў
11.10 - 11.30 - Фармаваньне Рэдакцыйнай камісіі па Статуце і Рэдакцыйнай камісіі па Рэзалюцыях
11.30 - 12.30 - Даклады лідэраў Беларускіх грамадзкіх арганізацыяў па праблемах разьвіцьця незалежнага трэцяга сэктару
12.30 - 12.40 - Адкрыцьцё кірмашу НДА
12.40 - 14.00 - Праца кірмашу
13.30 - 14.00 - Прэсавая канферэнцыя
14.00 - 15.00 - Абед
15.15 - 18.00 - Круглыя сталы

**3 сьнежня**

10.00 -11.30 - Прэзэнтацыя вынікаў круглых сталоў
11.30 - 12.00 - Справаздача камісіі па дапрацоўцы статуту і прыняцьцё статуту
12.00 - 12.30 - Перапынак
12.30 -12.45 - Фармаваньне выбарных органаў
12.45 - 14.00 - Абмеркаваньне і прыняцьцё выніковых рэзалюцыяў
14.00 - 14.15 - Закрыцьцё Асамблеі

### УДЗЕЛЬНІКІ ТРЭЦЯЙ АСАМБЛЕІ

**Беларускіх дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў 2-3 сьнежня 2000 году**

Агульная колькасьць арганізацыяў удзельнікаў - 335
У тым ліку прадстаўляючыя:
МЕНСК - 53
МЕНСКАЯ вобласьць - 50
ГОМЕЛЬСКАЯ вобласьць - 41
ГАРАДЗЕНСКАЯ вобласьць - 43
БЕРАСЬЦЕЙСКАЯ вобласьць - 38
ВІЦЕБСКАЯ вобласьць - 62
МАГІЛЁЎСКАЯ вобласьць - 48

### РАБОЧАЯ ГРУПА АСАМБЛЕІ

**Складаецца з 42 асобаў і фармуецца па наступнаму прынцыпу:**

- па тры прадстаўнікі ад кожнага рэгіёну, якія абіраюцца на рэгіянальных сходах.
- па тры прадстаўнікі ад тэматычных круглых сталоў па накірунках дзейнасьці, якія абіраюцца падчас працы Асамблеі на круглых сталах
- Экалягічныя арганізацыі
- Сацыяльныя арганізацыі
- Адукацыйныя і асьветніцкія арганізацыі
- Праваабарончыя арганізацыі
- Рэсурсавыя цэнтры і інфармацыйныя цэнтры
- Культурніцкія й краязнаўчыя арганізацыі
- Жаночыя арганізацыі

На пленарным паседжаньні вядучыя круглых сталоў і прадстаўнікі рэгіянальных Асамблеяў агучваюць сьпіс вылучаных у рабочую групу асобаў.

Склад рабочай групы зацьвярджаецца сьпісам.



## «Беларусь, Цэнтральная й Усходняя Эўропа: ствараем і абараняем грамадзянскую супольнасьць» - рэгіянальная сустрэча Цэнтраў Плюралізму ў Вільні

6-7 лістапада ў Вільні прайшла рэгіянальная сустрэча Цэнтраў Плюралізму «Беларусь, Цэнтральная й Усходняя Эўропа: ствараем і абараняем грамадзянскую супольнасьць». Цэнтры Плюралізму - канфэдэрацыя няўрадавых арганізацыяў, якая паўстала ў пачатку 90-х гадоў на базе кантактаў паміж дэмакртатычнымі дзеячамі краінаў Цэнтральнай і Усходняй Эўропы, былымі дысыдэнтамі. Зараз гэтыя людзі змагаюцца за рэальную дэмакратыю ў сваіх краінах.

У сустрэчы ўдзельнічалі прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў, палітыкі, журналісты зь Беларусі, Летувы, Польшчы, Украіны, Эстоніі ды Чэхіі. Асноўнымі тэмамі, якія абмяркоўваліся на сустрэчы, былі «Кансаладіцыя дэмакратычных сілаў», «Беларускі вэктар рэгіянальнай палітыкі», «Інфармацыйны вобраз Беларусі й ягоны ўплыў на фармаваньне грамадзянскай супольнасьці». З дакладамі на гэтыя тэмы выступілі Вінцук Вячорка; Малгажата Наімска, дырэктар Інстытуту на карысьць дэмакратыі ва Ўсходняй Эўропе (Варшава); Зьбігнеў Рамашэўскі, сэнатар (Варшава); Алесь Мілінкевіч, Рэгіянальны Рэсурсавы Цэнтар «Ратуша» (Гарадня); Саўлюс Пэчэлюнас, былы дэпутат Сэйму ЛР, кіраўнік групы па сувязях зь Беларусьсю; Іван Лазавы, Міністэрства інфармацыі Украіны; Сяргей Шупа, Радыё «Балтыйскія Хвалі (Вільня)» і інш.

Адбылася спэцыяльная сустрэча зь Сямёнам Шарэцкім, Старшынём Вярхоўнага Савету Беларусі. Удзельнікі наведалі радыёстанцыю «Балтыйскія Хвалі».

Удзельнікі сустрэчы прынялі заяву, якая тычыцца цяперашняга стану грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі. У заяве, між іншым, гаворыцца: «Ва ўмовах найгрубейшага парушэньня правоў чалавека, антыдэмакратычнага выбарчага заканадаўства, пры адсутнасьці рэальных паўнамоцтваў заканадаўчай і судовай улады адбыўся выбарчы фарс 15 кастрычніка 2000 г., які ня быў прызнаны міжнароднымі арганізацыямі ў якасьці свабодных й сумленных выбараў.» У дакумэнце высока ацэненае імкненьне беларускіх дэмакратычных сілаў да кансалідацыі.

Удзельнікі Рэгіянальнай сустрэчы Цэнтраў Плюралізму заклікалі грамадзкія ініцыятывы і парлямэнтарыяў краінаў рэгіёну і ўсяго дэмакратычнага сьвету падтрымаць імкненьне беларускай грамадзянскай супольнасьці абараніць дэмакратыю й незалежнасьць сваёй дзяржавы. Яны рэкамэндавалі ўзьняць пытаньне аб дэмакратычнай і незалежнай Беларусі ў сваіх краінах і на міжнародным узроўні; падтрымаць кааліцыі дэмакратычных сілаў Беларусі шляхам абмену пасьпяховым досьведам барацьбы з дыктатурамі, адукацыі актывістаў, назіральнікаў на выбарах; садзейнічаць стварэньню інфармацыйнага поля для аб'ектыўнага інфармаваньня беларускага грамадзтва й грамадзкай думкі іншых дзяржаваў пра сытуацыю ў Беларусі.

*Прэсавая служба «Цэнтру Супольнасьць»*

## З А Я В А

**Рэгіянальнай сустрэчы Цэнтраў Плюралізму «Беларусь, Цэнтральная й Усходняя Эўропа: ствараем і абараняем грамадзянскую супольнасьць»**

(Вільня, 6-7 лістапада 2000 г.)

На сустрэчы Цэнтраў Плюралізму - сетцы грамадзкіх арганізацыяў, якія абараняюць дэмакратычныя каштоўнасьці, з удзелам парлямэнтарыяў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы, была дэталёва асьветленая сытуацыя ў Беларусі. Удзельнікі сустрэчы прыйшлі да наступных высноваў.

**1.**Сытуацыя ў Беларусі працягвае абвастрацца. Ва ўмовах найгрубейшага парушэньня правоў чалавека, антыдэмакратычнага выбарчага заканадаўства, пры адсутнасьці рэальных паўнамоцтваў заканадаўчай і судовай улады адбыўся выбарчы фарс 15 кастрычніка 2000 г., які ня быў прызнаны міжнароднымі арганізацыямі ў якасьці свабодных й сумленных выбараў. Рэжым імкнецца спаралізаваць дзейнасьць легітымнага парлямэнту Беларусі - Вярхоўнага Савета. Незалежнасьць дзяржавы знаходзіцца пад пагрозай. Грамадзянская супольнасьць разглядаецца рэжымам як вораг. Дыскрымінуецца беларуская мова і культура. Дыктатарскі рэжым і ягоная рыторыка, якая абапіраецца на антызаходнюю ідэалёгію, нясуць пагрозу дэстабілізацыі ўсяго рэгіёну Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы.

**2.** Мы высока ацэньваем імкненьне беларускіх дэмакратычных сілаў да кансалідацыі. Кааліцыі ствараюцца на рэгіянальным і агульнанацыянальным роўні, як у межах трэцяга сэктару (Асамблея дэмакратычных NGOs), так і сярод партыяў і арганізацыяў (Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў). Аб'яднаньне дэмакратычных сілаў перад прэзыдэнцкімі выбарамі, пры ўмове пасьлядоўнай пазыцыі міжнароднай супольнасьці, дае Беларусі рэальны шанец вызваліцца ад дыктатуры.

**3.**Заклікаем грамадзкія ініцыятывы і парлямэнтарыяў краінаў рэгіёну і ўсяго дэмакратычнага сьвету падтрымаць імкненьне беларускай грамадзянскай супольнасьці абараніць дэмакратыю і незалежнасьць сваёй дзяржавы, а менавіта:

– узьняць пытаньне аб дэмакратычнай і незалежнай Беларусі ў сваіх краінах і на міжнародным роўні;
– падтрымаць кааліцыі дэмакратычных сілаў Беларусі шляхам абмену пасьпяховым досьведам барацьбы з дыктатурамі, адукацыі актывістаў, назіральнікаў на выбарах.
– садзейнічаць стварэньню інфармацыйнага поля для аб'ектыўнага інфармаваньня беларускага грамадзтва й грамадзкай думкі іншых дзяржаваў пра сытуацыю ў Беларусі.

# ПАДЧАС ПРАВЯДЗЕНЬНЯ АКЦЫІ «ПЕРАМЕНАЎ» ПА БЕЛАРУСІ АДБЫЛІСЯ МАСАВЫЯ ЗАТРЫМАНЬНІ

12 лістапада ў Беларусі прайшла моладзевая акцыя «Пераменаў!» - супольны выступ буйнейшых моладзевых дэмакратычных арганізацыяў. Мерапрыемствы самага рознага пляну адбыліся ў 25 гарадох Беларусі: былі праведзеныя пікеты (Барысаў, Маладэчна, Берасьце, Горадня), вечарына ў Нясьвіжы, несанкцыянаваныя мітынгі ў Воршы й Баранавічах, рок-канцэрт у Бялынічах, дыскатэка ў Маладэчне і інш.



***Прадстаўнікі магілеўскага Маладога Фронту*** вырашылі не патрабаваць пераменаў, а актыўна іх увасабляць. Яшчэ 11 лістапада маладыя людзі пачалі рэканструкцыю абласнога драмтэатру. Будынку, у якім ён месьціцца, сёлета споўнілася 112 год, цягам апошняга дзесяцігодзьдзя ён знаходзіцца на доўгатэрміновай дзяржаўнай рэстаўрацыі. Пры актыўнай падтрымцы адміністрацыі гандлёвых установаў на некалькіх гарадзкіх крамах маладыя людзі памянялі расейскамоўныя шыльды на адпаведныя беларускамоўныя. Акрамя таго, у гэты ж дзень быў арганізаваны турнір «Што? Дзе? Калі?», у якім прынялі ўдзел больш за 200 чалавек. Беларускамоўная дыскатэка, якая павінна была адбыцца ўвечары, была адмененая з-за «раптоўнага» адключэньня ў будынку сьвятла і «неадпаведнасьці» рэпэртуару музычнай праграмы.

**12 лістапада ў Беларусі прайшла моладзевая акцыя «Пераменаў!» - супольны выступ буйнейшых моладзевых дэмакратычных арганізацыяў**

***У Горадні*** сіламі міліцыі быў разагнаны несанкцыянаваны пікет «Пераменаў!». Згодна з заканадаўствам, на пікет была пададзеная заяўка ў гарвыканкам. Аднак улады перанесьлі месца і час правядзеньня пікету (маладых людзей адправілі пікетаваць на ўскраек гораду). Гарадзенская моладзь вырашыла правесьці акцыю, як было заплянавана раней. Акцыя пачалася а 15:00 ля Дому Сувязі ў цэнтры гораду, удзел у ёй прыняло больш за сорак чалавек з Маладога Фронту й Маладой Грамады. Праз 15 хвілінаў пасьля пачатку акцыя была спыненая міліцыяй. Былі арыштаваныя арганізатары: старшыня Гарадзенскага Маладога Фронту Андрэй Мялешка й намесьнік Маладой Грамады Сьвятлана Нех. Усяго было затрымана 15 чалавек. Трэба зазначыць, што за ўсю гісторыю гарадзенскіх акцыяў затрыманьні былі самымі масавамі. Суды прызначаныя на 14 лістапада.

***Аб 11 гадзіне на Цэнтральнай плошчы Барысава*** адбыўся несанкцыянаваны пікет. Удзел у ім узялі больш за 10 чалавек з Маладой Грамады. Праз пяць хвілінаў ад пачатку на месца правядзеньне пікету прыехалі міліцэйскія машыны. За трыманьне ў рукох плякатаў узброенымі міліцыянтамі былі схопленыя трое непаўнагадовых.

***На акцыю ў Менску*** сабралося некалькі тысячаў маладых людзей. Да іх прымаліся самыя жорсткія меры з боку міліцыі: каля 300 чалавек былі затрыманыя, большасьць зь іх - непаўнагадовыя. Пры затрыманьні міліцыянты жорстка зьбівалі ўдзельнікаў акцыі. Вялізная колькасьць міліцыі, АМАПу, тэхнікі, сырэны на вуліцах, - усё гэта было выкарыстана дзеля запалохваньня моладзі. Удзельнікаў акцыі судзілі 13 і 14 лістапада. І па маштабовасьці, і па колькасьці затрыманьняў акцыя 12 лістапада стала самым быйным выступам моладзі за апошнія гады.

Маладзёвая Кааліцыя «Пераменаў!» заяўляе, што ні запалохваньні, ні рэпрэсіі ня змогуць спыніць беларускую моладзь, якая будзе працягваць змаганьне за сваю будучыню, за перамены.

### МІЖНАРОДНЫЯ ПРАВААБАРОНЧЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ ВЫСТУПІЛІ З АСУДЖЭНЬНЕМ БЕЛАРУСКІХ УЛАДАЎ

Праваабарончыя арганізацыі « Міжнародная амністыя» і «Міжнародная ліга правоў чалавека» выступілі 13 лістапада з заявамі, у якіх асуджаецца разгон маладзёвай апазыцыйнай дэманстрацыі «Пераменаў» у Менску, што адбылася 12 лістапада. «Міжнародная амністыя» заяўляе, што ўсе затрыманыя падчас гэтай мірнай акцыі пратэсту будуць лічыцца вязьнямі сумленьня. Прадстаўнік «Міжнароднай амністыі» мае выступіць на гэтым тыдні ў Жэнэве на чарговай сэсіі Камітэту ААН па барацьбе з катаваньнямі і жорсткім абыходжаньнем. Прадстаўнікі арганізацыі накіравалі туды інфармацыю аб становішчы з правамі чалавека ў Беларусі, выказваючы занепакоенасьць з нагоды зьнікненьня апазыцыйных палітыкаў, запалохваньня іх сем'яў, жорсткага абыходжаньня з затрыманымі падчас мірных акцыяў пратэсту, рэпрэсіяў у адносінах да праваабаронцаў, а таксама частага выкарыстаньня сьмяротнага пакараньня і жудасных умоваў утрыманьня ў беларускіх турмах і сьледчых ізалятарах.




### ПАДЧАС АКЦЫІ 12 ЛІСТАПАДА МІЛІЦЫЯ БРАЛА ЎСІХ, КАГО БАЧЫЛА

15 лістапада быў выпушчаны на волю са спэцпрыёмніка-разьмеркавальніка на Акрэсьціна Андрэй Юркавец. Ён быў асуджаны на трое сутак за ўдзел у акцыі «Пераменаў», што ладзіла Кааліцыя Маладзёвых арганізацыяў 12 лістапада. Цікавым зьяўляецца тое, што насамрэч малады чалавек ня ўдзельнічаў у акцыі. Студэнт аднаго зь менскіх унівэрсытэтаў а 18 гадзіне 12 лістапада выйшаў з хлебнай крамы, што месьціцца блізу станцыі мэтро Акадэмія Навук, і быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі. Малады чалавек спрабаваў ім тлумачыць, што нічога ня ведае пра тое, што адбываецца, на што міліцыянты расказалі яму «страшную гісторыю», што яны нібыта сочаць за ім ужо даўно і менавіта яго ім трэба затрымаць. На судзе, які адбываўся 13 лістапада ў судзе Савецкага раёну, словам хлопца пра тое, што пра акцыю ён ня чуў, зноў-такі не паверылі. Акрамя сутак Андрэю Юркаўцу далі штраф у адну тысячу рублёў.









## МОЛАДЗЬ ПАТРАБУЕ ПЕРАМЕНАЎ

25 кастрычніка лідары Маладзёвай Кааліцыі Пераменаў сабраліся разам, каб скаардынаваць свае супольныя дзеяньні ўвосень. Стала вядома, што да кааліцыі далучылася яшчэ адна маладзёвая арганізацыя - Маладзёвая салідарнасьць (гэтая студэнцкая ініцыятыва паўстала толькі-толькі і пакуль яшчэ не зарэгістраваная). Такім чынам, на сёньняшні момант у кааліцыю ўваходзяць усе буйнейшыя маладзёвыя арганізацыі: Малады Фронт, Маладая Грамада, Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў, Маладзёвы Хрысьціянска-Сацыяльны Саюз, Беларуская Асацыяцыя Маладых Палітыкаў і моладзь АГП. У распаўсюджанай дэклярацыі «Пераменаў!» ад імя беларускай моладзі выказваецца патрабаваньне пераменаў ва ўсіх галінах жыцьця - патрабаваньне вольнага рынку, рэформы сыстэмы адукацыі, стварэньня прафэсійнага войска і інш. На 12 лістапада былі заплянаваныя сынхронныя акцыі ў больш як 30 местах Беларусі і некаторых краінах замежжа.

## БАЖ НАМЕРАНЫ АБАРАНІЦЬ НЕЗАЛЕЖНЫЯ ГАЗЭТЫ

25 кастрычніка Беларуская Асацыяцыя Журналістаў правяла круглы стол, на якім абмяркоўваўся стан незалежнай прэсы ў Беларусі. Сярод актуальных праблемаў была вылучаная новая перарэгістрацыя, якой патрабуюць ад СМІ ўлады. Паводле ўрадавага рашэньня, апошні тэрмін перарэгістрацыі - 1 студзеня наступнага году. На сустрэчы было выказанае заклапочаньне, што гэткім чынам колькасьць незалежных газэтаў з пачатку 2001 году можа значна паменшыцца. У зьвязку з гэтым рэдактары недзяржаўных выданьняў маюць намер зьвярнуцца ў міжнародныя арганізацыі з заклікам паўплываць на сытуацыю.

## СТРАТЭГІЯ РАЗЬВІЦТЦЯ ІНФАРМАЦЫЙНАГА МЭНЭДЖМЭНТУ

25 кастрычніка ў Менску прайшоў сэмінар на тэму «Стратэгія разьвіцьця інфармацыйнага мэнэджмэнту і стварэньне віртуальнай бібліятэкі», які правялі сумесна Інфармацыйны Рэсурсавы Цэнтар Амбасады ЗША і Беларуская Асацыяцыя Рэсурсавых Цэнтраў. Вёў сэмінар знаны амэрыканскі спэцыяліст, прафэсар Сіманс-коледжу ў Бостане доктар Робэрт Стуарт. Сэмінар быў прысьвечаны працы зь інфармацыйнымі сыстэмамі, стратэгіям плянаваньня інфармацыі. Удзел у сэмінары ўзялі прадстаўнікі рэсурсавых цэнтраў і іншых грамадзкіх арганізацыяў.

## МІТЫНГ У ПАМЯЦЬ АБ ЗАГІНУЎШЫХ

26 кастрычніка ў Менску адбыўся мітынг, прысьвечаны гадавіне расстрэлу гітлераўскімі акупантамі ў 1941 годзе групы менскіх падпольшчыкаў. Ва ўгодкі падзеі каля прахадной менскага дражджавога заводу сабралося больш за 30 чалавек, сярод якіх прадстаўнікі Беларускага Хэльсынскага Камітэту, Маладога Фронту, Сусьветнай асацыяцыі беларускіх габрэяў. Адначасова з ушанаваньнем памяці загінуўшых удзельнікі мітынгу выступілі супраць фашызму.

## МІНЮСТ ВЫНЕС ПАПЯРЭДЖАНЬНЕ БНФ

Міністэрства юстыцыі вынесла афіцыйнае папярэджаньне БНФ «Адраджэньне». Прычынай папярэджаньня стала ўжываньне на бланку назвы «Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне». Чыноўнікі даюць тлумачэньне, што такой арганізацыі не існуе, зарэгістраваны толькі «БНФ «Адраджэньне», у сувязі з чым было парушанае дзеючае заканадаўства.

## ЗАМЕЖНІКІ АБАРАНЯЮЦЬ ВЫДАВЕЦТВА АД САНКЦЫЯЎ УЛАДАЎ

Дзярждэпартамэнт ЗША, АБСЭ і Міжнародная арганізацыя абароны слова Article XIX выступілі з заявамі, ў якіх асуджаюцца дзеяньні беларускіх уладаў па ўціску на незалежнае выдавецтва «Мэджык». Месяц таму адбыўся першы суд над кіраўніцтвам выдавецтва за друкаваньне спэцнумару газэты «Рабочы» з заклікам да байкоту выбараў. Але на гэтым уціск з боку ўлады ня скончыўся. Зараз арыштавалі банкаўскі рахунак «Мэджыку», а на маёмасьць тыпаграфіі накладзены арышт - нягледзячы на тое, што ніякіх злоўжываньняў у фінансавым справаводзтве знойдзена не было (камітэт фінансавых расьсьледаваньняў, які правяраў фінансавую дакумэнтацыю «Мэджыка», нават не вярнуў яшчэ дакумэнты). А прычынай арышту маёмасьці сталі ... даўгі фонду Сораса. Чаму Мэджык мусіць плаціць па рахунках фонду Сораса - ўлады тлумачаць тым, што паліграфічнае абсталяваньне «Мэджыку» было перададзенае яму ў 1997 годзе Інстытутам адкрытага грамадзтва (прадстаўніком Фонду ў краінах Цэнтральнай ды Ўсходняй Эўропы.

## НЕ ЗАРЭГІСТРАВАЎСЯ - НЕ ВЫСТУПАЙ!

Міністэрства юстыцыі Беларусі заявіла пра недапушчальнасьць зьмяшчэньня ў сродках масавай інфармацыі заяваў ад імя незарэгістраваных кааліцыяў «Выбары-2001» і «Гарадзенская ініцыятыва». У заяве падкрэсьліваецца. што, згодна зь дзеючым заканадаўствам, парушальнікам пагражае папярэджаньне ці нават прыпыненьне дзейнасьці тэрмінам да трох месяцаў. Згодна з КаАП выступ ад імя незарэгістраванай структуры можа пацягнуць за сабой штраф ад 10 да 50 мінімальных заробкаў, а паўторна на працягу году - ад 50 да 100 мінімальных заробкаў.

## МЕСЯЦ УЛАДЗІМЕРА КАРАТКЕВІЧА

«Скарынінскае брацтва» пры гуманітарна-асьветным цэнтры імя Францішка Скарыны абвясьціла лістапад месяцам Уладзімера Караткевіча. Да гэтай падзеі фонд беларусістаў падрыхтаваў кнігу «Уладзімер Караткевіч і яго творчасьць у сусьветным літаратурным аспэкце». Кніга складаецца з чатырох частак, якія аб'ядналі матэрыялы навуковай канфэрэнцыі ў Воршы пяцігадовай даўніны і артыкулы сучасных літаратараў, прысьвечаныя знакамітаму пісьменьніку. Выданьне багата аздобленае рэдкімі фотаздымкамі і малюнкамі самога Караткевіча. Яно стане першым крокам да новай сэрыі «Беларускага кнігазбору» - «Гістарычны раман».

## У АБМЕН НА ЧАЛЕЦКІ БІЛЕТ - КАШТОЎНЫ ПРЫЗ. УЖО ЁСЬЦЬ І ПРЫЗЭРЫ

Кіраўнікі шэрагу дэмакратычных маладзёвых арганізацыяў, што аб'ядна907ліся ў кааліцыю пад лёзунгам «Пераменаў!», зьвярнуліся да сяброў БПСМ з прапановай пакідаць шэрагі гэтай арганізацыі. У абмен на членскія білеты былі паабяцаныя прызы і магчымасьць уступіць у любую з арганізацыяў кааліцыі. Зварот падпісаны кіраўнікамі «Маладога фронту», «Маладой грамады», маладзёвай арганізацыі АГП, Беларускага аб'яднаньня маладых палітыкаў, «Задзіночаньня бела-

МЕНШЧЫНА

рускіх студэнтаў». Асацыяцыі маладых прадпрымальнікаў і іншых арганізацыяў. Накіраваны ён у ЦК БПСМ, ва ўсе структуры гэтай арганізацыі, асабіста старшыні БПСМ Усеваладу Янчэўскаму. Цікава, што некалькі чалавек ужо выказалі жаданьне «разьмяняць» свой чалецкі білет.

### ПРЭЗЭНТАЦЫЯ ПРАГРАМЫ ISAR

30 кастрычніка ў Менскім рэспубліканскім экалягічным цэнтры прайшла прэзэнтацыя Праграмы ISAR (Ініцыятыва ў падтрымку грамадзкай дзейнасьці і адраджэньня ў Эўразіі) «Захавай росы белыя». Праграма фінансуецца Агенцтвам ЗША па міжнароднаму разьвіцьцю (USAID) і мае за мэту спрыяньне разьвіцьцю грамадзянскай супольнасьці праз падтрымку экалягічных праектаў. У сустрэчы прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў, а хутка адбудуцца асобныя экалягічныя сустрэчы ў кожнай вобласьці для супольнага вырашэньня сваіх праблемаў.

### ПОЛЬСКІ АМБАСАДАР НАВЕДАЎ КУРАПАТЫ

Надзвычайны і паўнамоцны амбасадар Рэспублікі Польшча ў Беларусі Марыюш Машкевіч 1 лістапада наведаў месца масавага пахаваньня ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў ува ўрочышчы Курапаты пад Менскам. Разам зь ім Курапаты наведалі супрацоўнікі амбасады й іх сем'і. Дыпляматы ўстанавілі памінальныя сьвечы з кветкамі каля крыжоў, пад якімі пахаваныя польскія грамадзяне і шматлікія безыменныя ахвяры бальшавіцкага генацыду. Таксама кветкі былі ўскладзеныя да Памятнага знаку ад амэрыканскага народу, які ў 1994 годзе ў Курапатах устанавіў прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан, і да пліты з абяцаньнем беларускіх уладаў увекавечыць абэліскам трагедыю ў Курапатах. Гэтая пліта была ўсталяваная яшчэ ў 1989 годзе.

### ДА ГАДАВІНЫ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ ПРЫМЕРКАВАНЫ ШЭРАГ АКЦЫЯЎ

Напрыканцы лістапада ў Менску пройдуць акцыі, прымеркаваныя да сьвяткаваньня Слуцкага збройнага чыну 1920 года ў абарону незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Рашэньне аб правядзеньні сьвяточных мерапрыемстваў было прынятае на паседжаньні Нацыянальнага арганізацыйнага камітэту па сьвяткаваньню юбілея, якое адбылося 27 кастрычніка. Старшынём камітэта абраны прафэсар Анатоль Грыцкевіч, , з паходжаньня случак, аўтар дасьледаваньняў пра слуцкія падзеі 80-гадовай даўніны. Пад эгідай часапісу «Спадчына» адбудуцца юбілейныя гістарычныя чытаньні. Гісторыкі Уладзімер Ляхоўскі й Аляксандра Гесь запрэзэнтуюць прысьвечаную Слуцкаму збройнаму чыну дакумэнтальную кнігу, а таксама выставу аўтэнтычных тагачасных дакумэнтаў. «Архіў найноўшай гісторыі» рыхтуе прагляд фільма пра Слуцкае паўстаньне і тэматычны канцэрт бардаўскай песьні. Фальклёрнае шоў (гістарычны вайсковы фальклёр ды песьні паўстанцаў, запісаныя на Случчыне філёлягам Марынай Сідаровіч) пакажа гурт Ірыны Мазюк. Як і штогод, адбудзецца масавы выезд у мясьціны паўстаньня: Слуцак, Вызну, Грозаў, Семежава, Цімкавічы.

### РЭКВІЕМ У ЛОШЫЦКІМ ЯРЫ

5 лістапада Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя БНФ правяла шэсьце і мітынг-рэквіем у Лошыцкім яры (Лошыцкі парк Мінска). Мерапрыемства было прысьвечана традыцыйнаму Дню памяці продкаў «Дзяды» - і праводзіцца на месцы масавых расстрэлаў людзей у 1930-х - 1940-х гадах падчас сталінскіх рэпрэсыяў. Акцыя пачалася а 12-й гадзіне каля Дома культуры камвольнага камбіната. Шэсьце да Лошыцкага яра прайшло па тратуарах вуліцы Маякоўскага, а мітынг-рэквіем адбыўся ў Лошыцкім парку.

### СЯБРЫ БЕЛАРУСКАЙ ПАРТЫІ СВАБОДЫ ПІКЕТАВАЛІ АМБАСАДУ НЯМЕЧЧЫНЫ

3 лістапада сябры Беларускай партыі свабоды правялі ў Менску каля амбасады Нямеччыны 5-хвілінны несанкцыянаваны пікет супраць анэксіі Беларусі Расеяй, чаму, паводле іх меркаваньня, садзейнічае палітыка Нямеччыны і кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ ў Беларусі. У пікеце прынялі ўдзел 8 чалавек, якія трымалі ў руках плякаты з надпісамі «Нет третьему Риму и четвертому Рейху!», «Молотов-Риббентроп = Вик-Иванов». Кіраўнік БПС паспрабаваў перадаць пэтыцыю пратэсту ў амбасаду Нямеччыны, аднак ніхто з дыпляматаў з будынку ня выйшаў. У дакумэнце нагадваліся словы, сказаныя ў верасьні сп. Вікам на канфэрэнцыі ў Беластоку аб тым, што АБСЭ на працягу апошніх 6 гадоў вяла палітыку далучэньня Беларусі да Расеі, якая ўступіла на шлях дэмакратызацыі. Сам Ханс-Георг Вік неаднаразова абвяргаў гэтыя словы, называючы іх нонсэнсам. Праз 5 хвілінаў пасьля пачатку акцыі супрацоўнікі міліцыі сталі вырываць плякаты з рук маніфэстантаў, пагражаючы затрыманьнем, пасьля чаго сябры БПС пакінулі месца правядзеньня акцыі.

### ГРАМАДОВЫ ФЭСТ ГАБРЭЙСКАЙ КНІГІ

З 5 па 12 лістапада ў Беларусі праходзіў Грамадовы фэст габрэйскай кнігі, ладзяць які Саюз беларускіх габрэйскіх грамадзкіх аб'яднаньняў і грамадаў, Амэрыканскі габрэйскі аб'яднаны разьмеркавальны камітэт «Джойнт» ды Ізраільскі культурна-інфармацыйны цэнтар. Урачыстае адкрыцьцё фэстывалю адбылося ў Белдзяржфілярмоніі. Тамоха ж экспанаваліся творы з галерэі «Брама». У Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі прайшоў баль-маскарад «Жывыя героі габрэйскага фальклёру», а ў заключны дзень фэсту - вечарына «Габрэйска-беларускі дыялёг у літаратуры».

### КАМУНІСТЫЧНЫ ЮБІЛЕЙ АДЗНАЧЫЛІ НЯ ТОЛЬКІ КАМУНІСТЫ

7 лістапада тры беларускія камуністычныя партыі - ПКБ, ВКПБ, КПБ - адсьвяткавалі чарговы юбілей кастрычніцкай рэвалюцыі. У гэты дзень каля 300 прыхільнікаў камуністычнай ідэі сабраліся ў Менску на плошчы Незалежнасьці. Падчас правядзеньня мерапрыемства актывісты Маладога Фронту правялі альтэрнатыўную акцыю. Яны вышыхтаваліся перад першым шэрагам дэманстрантаў у жывы ланцуг зь плякатам «Переменаў!» і асьвісталі камуністаў. Затым маладыя людзі хутка зьніклі, пакінуўшы ў некаторым замяшальніцтве людзей, што ўскладалі кветкі. Міліцыя ў гэты час вырашыла ў палеміку ня ўмешвацца.

### ЦЯРПЕНЬНЕ НАСТАЎНІКАЎ СКАНЧВАЕЦЦА

Больш за 20 тысячаў менскіх пэдагогаў маюць намер страйкаваць, пакінуўшы навучальныя клясы й аўдыторыі, у выпадку, калі да канца 2000 года ўлады ня выканаюць шэраг сваіх даўніх абяцаньняў. На пашыраным паседжаньні прэзыдыюму Менскай гарадзкой арганізацыі Беларускага прафзьвязу работнікаў адукацыі й навукі пэдагогі прынялі заяву, у якой выкладзеныя патрабаваньні да Савета Міністраў і адміністрацыі прэзыдэнта. Да канца гэтага тыдня арганізатары акцыі плянуюць сабраць толькі ў Менску больш за 50 тысячаў подпісаў пад гэтай заявай. Прыняць дадзеную заяву выкладчыкаў прымусілі цяжкое матэрыяльнае становішча, мізэрныя заробкі, якія яны атрымліваюць. Так, да прыкладу, маладыя настаўнікі маюць заробак 15 тысячаў рублёў у месяц, вопытныя спэцыялісты - каля 50 тысячаў. У прынятай заяве гаворыцца аб неабходнасьці зьмяненьня курсу эканамічнага разьвіцьця дзяржавы, пры якім патрэбна даць магчымасьць разьвівацца прамысловасьці, сельскай гаспадарцы, бізнэсу для таго, каб зьявіліся сродкі на навуку, адукацыю, культуру і мэдыцыну. У падтрымку настаўнікаў ужо выступілі прамысловыя прадпрыемствы Менску, абкам прафзьвязу хімікаў. Магчыма, да шэрагу страйкоўцаў у хуткім часе далучацца і шахтэры.

### ПЭДАГОГІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ АКЦЫЮ СУПРАЦЬ ЗЬБЯДНЕНЬНЯ

Працягваецца кампанія пратэсту пэдагогаў супраць зьбядненьня. Як сьцьвярджаюць у менскім прафэсійным зьвязе працаўнікоў адукацыі, на бягучы момант сабрана ўжо больш за 30 подпісаў настаўнікаў. Падпісанты выказваюць пратэст той эканамічнай палітыцы дзяржавы, якая давяла беларускіх пэдагогаў да сапраўднай галечы. Да кампаніі далучаюцца ня толькі школьныя настаўнікі, але й выкладчыкі сярэдніх спэцыяльных навучальных установаў, тэхнічныя працаўнікі. Магілеўскі абласны прафзьвяз гатовы не абмяжоўвацца толькі зборам подпісаў і пайсьці на больш радыкальныя крокі (удзел у пікетах, мітынгах, іншых масавых акцыях). На сёньняшні дзень ідзе актыўная праца з настаўнікамі па рэгіёнах, асабліва актыўна дзейнічаюць арганізацыі прафзьвязаў у шэрагу раёнаў Гарадзенскай, Берасьцейскай, Магілеўскай абласьцей.

### ПРАЙШОЎ УСТАНОЎЧЫ СХОД ПРАВААБАРОНЧАЙ АРГАНІЗАЦЫІ «ХЭЛЬСЫНКІ - 2000»

У сталічным Доме вэтэранаў прайшоў устаноўчы сход новай праваабарончай арганізацыі «Хэльсынкі - XXI». Удзел у абмеркаваньні статутных дакумантаў прыняло звыш 100 чалавек з большасьці рэгіёнаў Беларусі, абраныя кіруючыя ворганы - Сойм і Рада. Новае грамадзкае ўтварэньне паўстае зь ініцыятывы часткі праваабаронцаў, якія ў верасьні гэтага году выйшлі зь Беларускага Хэльсынскага Камітэту. Сярод заснавальнікаў ёсьць шэраг вядомых грамадзкіх дзеячоў: Аляксандар Патупа, Сьвятлана Алексіевіч, Рыгор Барадулін, Юры Хашчавацкі, Валянцін Тарас, Уладзімер Халіп. Канфлікт у БХК разгарнуўся, калі частка сябраў арганізацыі абвінавацілі кіраўніцтва ва ўдзеле ў актыўнай палітычнай дзейнасьці. Тацьцяне Процька ставіўся ў віну ўдзел у арганізацыі грамадзка-палітычнага дыялёгу, што прайшоў пад патранажам прэзідэнта, а таксама ў восеньскіх парляманцкіх выбарах. У выніку, выказаўшы нязгоду з палітыкай кіраўніцтва, з БХК выйшла некалькі дзесяткаў сябраў з намерам стварыць альтэрнатыўную праваабарончую ініцыятыву.

### СТУДЭНТА ВЫКЛЮЧЫЛІ ЗА... ПРОСТА ЗА ПРОПУСКІ ЗАНЯТКАЎ

Як паведаміла прэс-служба Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў(ЗБС), 13 лістада з 5 курсу факультэта ангельскай мовы лінгвістычнага ўніверсытэту быў выключаны Юры Палякоў. 11 лістапада ў пакой сябра аб'яднаньня ўвайшлі супрацоўнікі міліцыі ў цывільным, якія не паказалі дакумэнтаў і не прадставіліся. Агледзеўшы значную колькасьць налепак на сьцяне, яны прымусілі студэнта прайсьці ў аддзяленьне міліцыі. За налепкі на Юрыя быў складзены пратакол, але ўсе абвінавачваньні былі зьнятыя пасьля дапамогі праваабарончых арганізацыяў. Тады міліцыянты пайшлі далей і афармілі Палякова як сьведку разламаньня мясцовай дошкі гонару, пасьля чаго ён быў адпушчаны. А 13 лістапада дэкан афіцыйна выключыў Юрыя з ВНУ за пропускі заняткаў.

### ПРЫВАТНЫЯ ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ ПАПЯРЭДЖВАЮЦЬ

На 23 лістапада заплянаваная аднадзённая забастоўка-папярэджваньне беларускіх прыватных прадпрымальнікаў. Спрычыніла яе ігнараваньне Саветам Міністраў, Міністэрствам прадпрымальніцтва і інвэстыцыяў, Дзяржаўным мытным камітэтам (ДМК) зваротаў прафзьвязаў прадпрымальнікаў у сувязі са зьменамі ў заканадаўстве. Акрамя гэтага будуць выказаныя патрабаваньні адмены неабгрунтавана высокіх штрафаў і спыненьня практыкі канфіскацыі тавараў.

### НАРАКАЦЬ НЯМА НА ШТО

Сталічны выканкам ня даў дазволу на правядзеньне мітынгу працаўнікам Менскага трактарнага і Менскага маторнага заводаў. Па ініцыятыве Свабоднага прафзьвязу мэталістаў рабочыя мелі намер 15 лістапада правесьці акцыю пратэсту супраць зьбядненьня. Плянавалася, што мітынгоўцы пройдуць шэсьцем ад прахадной маторнага заводу да плошчы перад трактарным заводам, дзе мусіў адбыцца мітынг. Гарадзкія ўлады матывуюць адмову тым, што працоўныя ня маюць падставаў для незадавальненьня ўзроўнем жыцьця, паколькі іх заробкі рэгулююцца калектыўнымі дамовамі паміж прафзьвязамі і завадзкімі адміністрацыямі. У адказ рабочыя сьцьвярджаюць, што кіраўніцтва прадпрыемстваў само неаднаразова парушала пункты дамовы, некаторыя палажэньні наагул не працуюць. Лідары Свабоднага пафсаюзу мэталістаў маюць намер і надалей дамагацца правядзеньня масавай акцыі ў сярэдзіне сьнежня.

ГОМЕЛЬШЧЫНА



### ГОМЕЛЬШЧЫНА ІНІЦЫЯТЫВЫ «ГРАМАДЗЯНСКІХ ІНІЦЫЯТЫВАЎ»

Гомельскае абласное аб'яднаньне «Грамадзянскія ініцыятывы» рэалізуе праграму галяндзкага ўраду «Matra». Праектам прадугледжваецца стварэньне трох інфармацыйна-кансультацыйных цэнтраў у буйных раённых гарадох Гомельскай вобласьці: Рэчыцы, Калінкавічах і Буда-Кашалёве, адкрыцьцё лінгафонных кабінэтаў для вывучэньня замежных моваў і навучаньне маладых журналістаў і эканамістаў. Акрамя гэтага, прадугледжваецца выданьне энцыкляпэдый і даведнікаў для няўрадавых арганізацыяў. Асобным важным напрамкам дзейнасьці праекту зьяўлянцца абнаўленьне выхаду «Школьнай газэты». Паралельна з 10 па 24 кастрычніка партнэры з галяндзкай арганізацыі «Sawa» правялі для пэрсаналу «Грамадзянскіх ініцыятываў» і актывістаў іншых мясцовых арганізацыяў цыкль сэмінараў па кіраваньню праектам, арганізацыйнаму разьвіцьцю і стратэгічнаму плянаваньню.

### АЛЬТЭРНАТЫЎНАЯ АДУКАЦЫЯ Ў МАГІЛЕВЕ

6 лістапада ў Магілеве адбылася прэзэнтацыя праекту «Вольная кляса», які рэалізуюе мясцовая філія Маладога Фронту сумесна з «Таварыствам філяматаў». У межах праекту пачалі праводзіцца курсы для вучняў старэйшых клясаў, студэнтаў і абітурыентаў па гісторыі і культуры Беларусі, эканоміцы, паліталёгіі, праву, журналістыцы, экалёгіі ды ангельскай мове. Праводзяць заняткі вядомыя навукоўцы і выкладчыкі зь Менску і Магілеву.

### НА МАГІЛЕЎШЧЫНЕ САМЫМІ НЕЗАБЯСЬПЕЧАНЫМІ ЗАСТАЮЦЦА РАБОТНІКІ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Па афіцыйных зьвестках, сярэдняя заработная плата па Магілеўскай вобласьці склала 58 тысячаў рублёў. Прычым існуе вялікая розьніца пры аплаце работнікаў розных катэгорыяў. Сярод работнікаў бюджэтнай сфэры найлепшыя паказьнікі ў работнікаў банкаўскай сфэры - больш за 100 тысячаў рублёў. Сярэдні заробак ў працаўнікоў прамысловых прадпрыемстваў складаецца з 75 тысячаў, у работнікаў аховы здароўя - з 40 тысячаў. Найменш забясьпечанымі традыцыйна застаюцца сельскія жыхары, па сельскіх гаспадарках заработная плата склала 38 тысячаў рублёў.

### КРАЯЗНАЎЦЫ МАГІЛЕЎШЧЫНЫ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА Ў КРАЯЗНАЎЧУЮ АРГАНІЗАЦЫЮ

21 кастрычніка ў Магілеве адбыўся ўстаноўчы сход Магілеўскага краязнаўчага таварыства імя Яўдакіма Раманава. На сход сабраліся краязнаўцы з 21 раёну Магілеўскай вобласьці. Быў прыняты статут новай арганізацыі, які найперш мае на мэце каардынаваць дзейнасьць мясцовых краязнаўчых ініцыятываў. Арганізацыйны камітэт па стварэньню агульнаабласной арганізацыі працаваў на працягу года. За гэты час арганізацыя ўжо займела свой офіс, гатовы да функцыяваньня, а таксама сякую-такую тэхніку, якою могуць карыстацца краязнаўцы вобласьці. Акрамя таго, за гэты год, дзякуючы Магілеўскаму таварыству навуковых і гуманітарных ініцыятываў «Брама», былі падтрыманыя 16 краязнаўчых ініцыятываў. Пры «Браме» ўжо створаная база дадзеных па краязнаўчых ініцыятывах. Паводле яе, у Магілеўскай вобласьці дзейнічае 119 грамадзкіх музэяў, якія існуюць без дапамогі дзяржавы, а таксама 212 краязнаўчых ініцыятываў.

### ІНФАРМАЦЫЯ З МСЦІСЛАВА

Кожная больш-менш значная мясцовасьць мае свае, толькі ёй уласьцівыя адметнасьці. Гэта тычыцца ня толькі архітэктуры, гісторыі, адзежы ці моўных асаблівасьцяў, але і паводзінаў мясцовых жыхароў. Добра калі яны абажаюць займацца лозапляценьнем ці зьбіраць коракі з піўных пляшак. Аднак бывае так, што тэндэнцыя паводзінаў, якая адсочваецца на

прыкладзе той ці іншай тэрыторыі, прымушае валасы станавіцца дыбам. Вось у Мсьціславе, напрыклад, з зайздроснай перыядычнасьцю сваякі забіваюць сваякоў, дзеці бацькоў.

У вёсцы Картыжы Мсьціслаўскага раёну 35-гадовы сын (калі можна так сказаць) да такой ступені зьбіў свайго бацьку, што стары неўзабаве памёр. Віной таму, хутчэй за ўсё, паслужыла звычайная гарэлка, якую ў неабмежаванай колькасьці перад самым забойствам спажывалі і злачынца і ахвяра...

## ГАРОДНЯ СЬВЯТКУЕ НАРОДЗІНЫ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Мерапрыемствы, прысьвечаныя 90-годзьдзю Ларысы Геніюш, прайшлі 29 кастрычніка ў Гародні ў Калоскай царкве. У межах урачыстасьцяў, якія будуць мець назву «Хрысьціянскі шлях паэткі», - выступ айца Аляксандра, чытаньне вершаў Ларысы Геніюш, сьпевы хору «Бацькаўшчына». Акрамя гэтага напярэдадні мерапрыемстваў сябры гарадзенскага Маладога Фронту і Маладой Грамады прыбяруць тэрыторыю каля Каложы.

## ЮБІЛЕЙ ЛІДЗКАЙ ЗЯМЛІ

У Лідзе Таварыства польскай культуры адзначыла 10-гадовы юбілей газэты «Zemla Lidzka». З гэтай нагоды ў мясцовым краязнаўчым музэі адкрылася выстава лепшых фотаздымкаў з архіву газэты. У гарадзкім Доме культуры адбылося юбілейнае сьвята, вёў праграму рэдактар выданьня Алесь Калышка. У імпрэзе ўдзельнічалі сябры таварыства, прадстаўнікі беларускіх грамадзкіх арганізацыяў, госьці зь Літвы, Польшчы. Увечары адбыўся сьвяточны канцэрт з удзелам мясцовых фальклёрнага гурта «Кракавякі», дзіцячых калектываў зь лідзкага Дому творчасьці, польскага музычнага гурта.

## У ГАРОДНІ ПАДЧАС ПРАВЯДЗЕНЬНЯ «ДЗЯДОЎ» БЫЛО ЗАТРЫМАНА НЕКАЛЬКІ ДЗЕСЯТКАЎ ЧАЛАВЕК

Увечары 1 лістапада ў Гародні падчас сьвяткаваньня «Дзядоў» міліцыя затрымала 23 чалавек. А 17 гадзіне больш за 40 чалавек сабралося каля знаку паўстанцам 1863 году, што каля чыгуначнага вакзалу. Удзельнікі акцыі ўсклалі да мэмарыяльнай дошкі кветкі й запалілі зьнічкі, пасьля чаго рушылі да помніку Янку Купалу, што ля ўнівэрсытэту. Там падчас ускладаньня кветак удзельнікі былі абкружаныя супрацоўнікамі міліцыі і АМАПу, быў аддадзены загад затрымліваць асобаў з нацыянальнай сымболікай і сьцягамі. Падчас затрыманьня некаторыя былі паваленыя на зямлю і зьбітыя. У Ленінскім РАУС Гародні затрыманых абвінавацілі ў арганізацыі несанкцыянаванага шэсьця. Пасьля таго, як былі складзеныя пратаколы, затрыманых адпусьцілі.

## СУД НАД АКТЫВІСТАМІ БНФ

2 лістапада адбыўся суд над актывістамі БНФ Міколам Воранам і Пятром Анісімовічам, якія былі затрыманыя падчас сьвяткаваньня Дзядоў, якое адбывалася 1 лістапада ў Гарадні. Пятра Анісімовіча абвінавачвалі ў непадпарадкаваньні ўладам пры затрыманьні, а Міколу Ворана акрамя гэтага яшчэ і ў хуліганстве.

Суд пачаўся а 15 гадзіне. Судзьдзя хацеў правесьці паседжаньне ў сваім кабінэце, але падсудныя запатрабавалі, каб на судзе прысутнічалі і іншыя людзі. Сп. Воран запатрабаваў перакладчыка на родную мову, з-за чаго суд перанесьлі на 9 лістапада.

Астатнія сябры БНФ, у дачыненьні да якіх былі ўжытыя незаконныя гвалтоўныя дзеяньні міліцыі падчас «Дзядоў», напісалі скаргу ў пракуратуру.

## КАНФЭРЭНЦЫЯ АБ РОЛІ ЖАНЧЫНАЎ

4-5 лістапада ў Гародні прайшла канфэрэнцыя «Роля жанчыны ў беларускім грамадзтве». Канфэрэнцыя ладзілася сумеснымі намаганьнямі грамадзкага аб'яднаньня «Цэнтар «Трэці сэктар» і ініцыятывы «Жаночы лад» пры падтрымцы Праграмы Партнэрства Альянсу Каўнтэрпарт. Удзел у сустрэчы прынялі прадстаўніцы жаночых арганізацыяў і ініцыятываў з Гарадзеншчыны і Менску. У праграме канфэрэнцыі, якая мела на мэце актывізацыю жаночага руху на Гарадзеншчыне, набыла разьвіцьцё тэма месца і ролі жанчыны ў адукацыі, мастацтве, грамадзкім жыцьці.

## ПАЧАЎ ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОПІС «СЛОНІМСКІ КРАЙ»

У Слоніме пачаў выходзіць краязнаўчы часопіс «Слонімскі край». Выдае часопіс вядомы гісторык Сяргей Ёрш пры падтрымцы гарадзенскага грамадзкага аб'яднаньня «Ратуша». Мэтай часопіса ёсьць аднаўленьне культурнай еднасьці Слонімскага краю. У першым нумары можна пазнаёміцца зь дзейнасьцю беларускіх патрыётаў Хвёдара Данілюка, Сяргея Хмары, паэтаў Гальляша Леўчыка й Анатоля Іверса.

## ДРУГОЕ ВЫДАНЬНЕ КНІГІ ІВАНА ЛЕПЕШАВА «ДАЗНАНЬНІ»

Выйшла другое выданьне кнігі «Дазнаньні» беларускага філёляга, выкладчыка Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Івана Лепешава. Выдаў кнігу Беларускі фонд культуры пры падтрымцы Гарадзенскага грамадзкага аб'яднаньня «Ратуша», фонду «Альянс Каўнтэрпарт» і амбасады ЗША. Кніга выдадзеная накладам 250 асобнікаў. Увайшлі ў яе эсэ-роздумы над творчасьцю беларускіх пісьменьнікаў, над актуальнымі праблемамі сучаснасьці. І. Лепешаў вядомы перш за ўсё сваёй грунтоўнай працай - двухтомным слоўнікам «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы».

## ГРАМАДЗЯНІН І СЬЛЕДЗТВА

4-5 лістапада ў Лідзе ў цэнтры «Генэрацыя» прайшоў сэмінар «Грамадзянін і сьледзтва». Ладзіла сэмінар Асамблея Няўрадавых Арганізацыяў. Сэмінар праводзіўся для сябраў няўрадавых арганізацыяў Лідчыны і ставіў на мэце навучыць супрацоўнікаў няўрадавых арганізацыяў паводзіць сябе юрыдычна правільна ў выпадку супрацьзаконных дзеяньняў у іх бок супрацоўнікаў праваахоўных ворганаў.

## ЗА ДАПАМОГАЙ У КЛІНІКУ. ПРАВАВУЮ

11 лістапада ў памяшканьні Гарадзенскага Абласнога Грамадзкага Аб'яднаньня «Ратуша» прайшоў сэмінар на тэму «Прававая клініка: навучаньне студэнтаў права практычным навыкам працы юрыста». Сэмінар праводзілі прадстаўнікі «Прававой клінікі» Берасьцейскага Абласнога Цэнтру Падтрымкі Грамадзянскіх Ініцыятываў «Вежа». У Берасьцейскай прававой клініцы ўжо доўгі час атрымліваюць практычную адукацыю студэнты-правазнаўцы праз тое, што аказваюць бясплатную юрыдычную дапамогу сацыяльна незабясьпечаным грамадзянам. У хуткім часе такая ж прававая клініка будзе створаная пры ГА «Ратуша».

## СЭМІНАР ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ ПА АКТЫЎНЫХ МЭТАДАХ НАВУЧАНЬНЯ

5-6 лістапада ў Смаргоні адбыўся сэмінар для настаўнікаў «Актыўныя мэтады навучаньня». Настаўнікі, большасьць зь якіх маладыя спэцыялісты, абмеркавалі праблемы школьнага выкладаньня, выкарыстаньне інтэрактыўных мэтодыкаў для паляпшэньня якасьці выкладаньня. Дадаткова настаўнікі даведаліся пра грамадзкія ініцыятывы ў сваім рэгіёне, пра конкурсы на атрыманьне фінансаваньня. У сэмінары прынялі ўдзел некалькі дзесяткаў настаўнікаў са школаў Смаргоні, Смаргонскага раёну і Астраўца. Ладзілі сэмінар грамадзкае аб'яднаньне «Ратуша», Смаргонскі рэсурсавы цэнтар і Інстытут сучасных ведаў (Менск).

## БЕРАСЬЦЕЙЦЫ ПАДТРЫМАЛІ МЕНСКІХ НАСТАЎНІКАЎ

Сябры Берасьцейскага абласнога прафесыйнага зьвязу работнікаў адукацыі і навукі выказалі салідарнасьць са сваімі менскімі калегамі. Паводле іх меркаваньня, ў Берасьцейскай вобласьці можа быць сабрана 20-30 тысячаў подпісаў у падтрымку заявы з эканамічнымі патрабаваньнямі выкладчыкаў, настаўнікаў, тэхнічных работнікаў, работнікаў дашкольных установаў і студэнтаў Менску. Збор подпісаў у вобласьці ўжо



пачаўся. Нагадаем, заява ў адрас адміністрацыі прэзыдэнта і Савета Міністраў Беларусі была прынятая на пашыраным прэзыдыюме Менскай гарадзкой арганізацыі Беларускага прафзьвязу работнікаў адукацыі і навукі 13 кастрычніка. У ёй падрабязна выкладзена пазыцыя прафзьвязаў у сувязі з жабрацкім становішчам работнікаў сыстэмы адукацыі. Там жа прыгадваюцца абяцаньні, дадзеныя намесьнікам кіраўніка адміністрацыі прэзыдэнта Уладзімерам Замяталіным на рэспубліканскім зьезьдзе прафзьвяза, і вылучаецца шэраг патрабаваньняў па паляпшэньню становішча работнікаў сыстэмы адукацыі.

## ШКОЛА-ТРЭНІНГ ДЛЯ САЦЫЯЛЬНЫХ ПЭДАГОГАЎ

У Берасьцейскім дзяржаўным унівэрсытэце на псыхоляга-пэдагагічным факультэце ў межах праграмы ЮНІСЭФ «Глябальны рух у інтарэсах дзяцей» пачала працаваць школа-трэнінг сацыяльных пэдагогаў «Дзіця. Правы. Соцыюм». Асноўнай мэтай школы ёсьць павышэньне прафэсійнай падрыхтоўкі сацыяльных пэдагогаў, пашырэньне ўзаемадзеяньня паміж ВНУ і школамі. У занятках прымаюць удзел студэнты БрДУ, пэдагогі Берасьця і Берасьцейскага раёну. Першы занятак быў прысьвечаны праблемам алькагалізму. Наступны занятак будзе тычыцца праблемаў падлеткаў. Ужо праведзена сацыялягічнае апытаньне сярод школьнікаў, дзеці напісалі сачыненьні на тэму «Падлетак-2000. Які ён?». У хуткім часе на псыхоляга-пэдагагічным факультэце БрДУ адбудзецца «круглы стол» —»Дзяцінства: прагноз на XXI стагодзьдзе». Тут абмяркуюць такія пытаньні, як становішча дзяцей у Беларусі і Польшчы, праблемы прадухіленьня гвалту над дзецьмі і сацыяльнага сіроцтва, праблемы ўдзелу дзяцей у грамадзкім жыцьці.

## ПРАГРАМА ПАДТРЫМКІ ДЗІЦЯЧАЙ ПРЭСЫ

У Берасьцейскім цэнтры «Вежа» пачалася праграма падтрымкі дзіцячай прэсы. Тут штотыдзень зьбіраюцца школьнікі, якія маюць жаданьне займацца самастойным выпускам друкаванай прадукцыі. У рамах праграмы падлеткі атрымаюць веды па асновах журналістыкі, папрацуюць над макетаваньнем, вёрсткай газэты. Да ўдзелу былі запрошаныя гарадзкія школьныя газэты, з трыма («Ліцэюм», «Рэха», газэта клюбу ЮНЭСКА) вядзецца шчыльнае супрацоўніцтва.

## НА РЭДАКЦЫЮ ГАЗЭТЫ «ШАГ» УЧЫНЕНЫ РАЗБОЙНЫ НАПАД

У Баранавічах на рэдакцыю мясцовай незалежнай газэты «Шаг» быў учынены налёт. Некалькі рабаўнікоў уварваліся ў памяшканьне рэдакцыі, зьвязалі ахоўніка, заклеілі яму вочы і, пагражаючы пісталетам, запатарабавалі ключы ад рэдакцыйнага памяшканьня. Калі вартаўнік сказаў, што ў яго ключоў няма, злачынцы выбілі дзьверы. З рэдакцыі былі вынесеныя кампутары, прынтэры, сканэры, іншая аргтэхніка, неабходная для выданьня газэты. Па факце здарэньня ўзбуджаная крымінальная справа. Супрацоўнікі газэты адзначаюць некалькі дзіўных акалічнасьцяў. Напрыклад, быў скрадзены недарагі рыштунак, адно тыя прыстасаваньні, што злучалі рэдакцыйныя кампутары ў сетку і дазвалялі апэратыўна працаваць рэдакцыі, але засталіся некранутымі некалькі новых картрыджаў, факс, якія знаходзіліся побач. Наагул, рэдакцыя знаходзіцца ў будынку, дзе арэндуе плошчу вялікая колькасьць фірмаў, што валодаюць значнымі матэрыяльнымі каштоўнасьцямі, побач ёсьць нават склад. Галоўны рэдактар газэты «Шаг» Аляксандар Лабкоў выказвае меркаваньне, што гэтае злачынства было ўчыненае з мэтай прымусіць замаўчаць незалежнае выданьне, якое апошнім часам пачало карыстацца вялікай папулярнасьцю сярод жыхароў рэгіёну.

## КСЯНДЗУ ЗЬБІГНЭВУ КАРОЛЯКУ АДМЕНЕНАЯ ЗАБАРОНА НА ЎЕЗД У БЕЛАРУСЬ

Судовая калегія па грамадзянскіх справах Берасьцейскага аблвыканкаму адмяніла рашэньне, паводле якога ксяндзу Зьбігнэву Кароляку, былому пробашчу парафіі Узьвіжаньня сьвятога Крыжу, забаранялася ўяжджаць у Беларусь на працягу дзесяці бліжэйшых год. Нагадаем, падоная жорсткая мера, як і рашэньне аб дэпартацыі, сталіся вынікам працяглага супрацьстаяньня паміж каталіцкім сьвятаром і берасьцейскімі ўладнымі структурамі. На пачатку бягучага году ксёндз быў сілком дастаўлены ў Ленінскі РАУС, дзе на яго быў складзены адміністрацыйны пратакол за парушэньне пашпартна-візавага рэжыму. Празь некаторы час Зьбігнэў Кароляк быў дэпартаваны за межы Беларусі, з забаронай уезду на працягу 10 год. Адвакат Кароляка Ігар Кабаляк абскардзіў дадзеную пастанову ў судзе вышэйшай інстанцыі, пасьля чаго калегія абласнога суду адмяніла вышэйзгаданае абмежаваньне.

## БЯРОЗАЎСКІЯ ЖАНЧЫНЫ ЎЗДЫМАЮЦЬ СВОЙ ГОЛАС

Грамадзкая жаночая арганізацыя «Адраджэньне Айчыны», якая дзейнічае у Бярозаўскім раёне, пачала выдаваць газэту «Наш голас». Газэта - люстэрка жыцьця жанчыны. У першым нумары зьмешчаныя творы знакамітай паэткі Ніны Мацяш. Акрамя таго, у газэце плянуецца адлюстроўваць праблемы, зь якімі жанчыны зьвяртаюцца ў арганізацыю - найперш праблемы псыхалягічныя і юрыдычныя. Акрамя гэтага, «Адраджэньне Айчыны» хвалюе экалёгія. Напрыклад, у газэце прыводзяцца лічбы , паводле якіх на тэрыторыі Бярозаўскага раёну ўтрыманьне жалеза ў вадзе перавышае норму ў 20 разоў.

## УЛАДЫ ХІМІЧАЦЬ, А «ХІМІК» НЕ СКАРАЕЦЦА

Пад пагрозай зьнікненьня працуе наваполацкая газэта «Хімік». Гэта адзіная ў горадзе незалежная газэта. Да 2001 года рэдакцыя абавязана прайсьці перарэгістрацыю. Заява на яе пададзеная была яшчэ ў траўні, аднак дагэтуль улады яе не разгледзелі. Каб зарэгістравацца, патрэбнае рэгістрацыйнае пасьведчаньне на будынак рэдакцыі, а каб атрымаць гэтае пасьведчаньне, трэба, у сваю чаргу, мець дзяржаўны акт на права карыстацца зямельным участкам, дзе разьмешчаная рэдакцыя. А ўжо гэты дзяржаўны акт выдае гарвыканкам. «Хіміку» ён яго ня можа выдаць ужо на працягу сямі гадоў, пры гэтым увесь час пагражаючы рэдакцыі нейкімі санкцыямі. Падобна, што ў гэтай сытуацыі рэдакцыя мае ўсе шансы застацца без будынку, а навапалачане - безь любімай газэты. Аднак рэдакцыя мае намер змагацца за сваю газэту.

## НЯЎРАДАВЫЯ АРГАГНІЗАЦЫІ ГЛЫБОЧЧЫНЫ РАЯЦЦА

22 кастрычніка ў Глыбокім адбылася рэгіянальная сустрэча Асамблеі няўрадавых арганізацыяў. На ёй сабраліся прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў Пастаўскага, Браслаўскага і Глыбоцкага раёнаў. Сустрэча была падрыхтоўчым этапам да абласной і рэспубліканскай канфэрэнцыяў Асамблеі. На мерапрыемстве быў прэзэнтаваны конкурс мікрагрантаў Віцебскага аддзяленьня Фонду імя Лява Сапегі.

## ЭКОЛЯГІ СУСТРАКАЮЦЦА У ВІЦЕБСКУ

26 кастрычніка Віцебск наведаў актывіст польскага экалягічнага руху

Station: Станіслаў Гурка. Зараз ён каардынуе супольны польска-беларускі праект - выданьне часопіса «Зялёны край» (у працяг традыцый «Зялёнага весьніка EcoInform»). Высокі госьць сустрэўся з прадстаўнікамі «Экавіты», «Контура» і Віцебскага аддзяленьня Фонду імя Л.Сапегі. Падчас некалькігадзіннай гутаркі са спадаром Гуркам ў офісе «Контура» была дасягнута дамова аб супрацоўніцтве.

Госьць зь цікавасьцю ўспрыняў бюлетэнь «Зялёны гай» і іньшыя выданьні, што выходзяць на тэхнічнай базе «Контура» і са свайго боку падараваў сьвежыя выпускі вядомага часопіса «Zielone Brygady», які рэдагуе ў Кракаве энтузіяст Анджэй Жвава.

## РЭГІЯНАЛЬНАЯ СУСТРЭЧА АСАМБЛЕІ НЯЎРАДАВЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ У ВІЦЕБСКУ

4 лістапада ў Віцебску адбылася рэгіянальная сустрэча сябраў Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў. У ёй

прынялі ўдзел 44 прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў зь Віцебску, а таксама Лёзьненскага, Чашніцкага і Бешанковіцкага раёнаў вобласьці. Сустрэча была падрыхтоўчым этапам да абласной і рэспубліканскай канфэрэнцыяў Асамблеі і ставіла на мэце абмеркаваць сучасны стан «трэцяга сэктару» на Віцебшчыне і вылучыць дэлегатаў на абласную канфэрэнцыю. Па заканчэньні мерапрыемства была праведзена прэзэнтацыя конкурсу мікрагрантаў Віцебскага аддзяленьня Фонду імя Льва Сапегі і IDEE. Правядзеньне канферэнцыі абласной Асамблеі НДА прызначана на 19 лістапада.

### ВІЦЕБСКАЕ ТБМ КАЖА ПРА ДЫСКРЫМІНАЦЫЮ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

У Віцебску 5 лістапада прайшла канфэрэнцыя, у якой прынялі ўдзел пісьменьнікі, выкладчыкі ВНУ, настаўнікі беларускай мовы, загадчыкі і выхавацелі дашкольных установаў. Канфэрэнцыя была прысьвечаная сфэры ўжываньня беларускай мовы. Яе арганізавалі мясцовае аддзяленьне Таварыства беларускай мовы і гарадзкі аддзел адукацыі. Праўда, ні прадстаўнікі гарадзкіх уладаў, ні дырэктары агульнаадукацыйных школаў на мерапрыемстве не прысутнічалі. Падчас канфэрэнцыі зазначалася, што ў горадзе адбываецца адкрытая дыскрымінацыя беларускай мовы, і наяўнасьць у Віцебску беларускай гімназіі і беларускае клясы ў адной зь сярэдніх школаў не дазваляе рабіць выснову аб адваротным.

### ВЕРХНЯДЗЬВІНСКІЯ ГАНДЛЯРЫ РАСПАЧАЛІ СТРАЙК

Да страйку гандляроў з рэчавых рынкаў Полацку і Наваполацку, які быў распачаты на мінулым тыдні, далучыліся Верхнядзьвінскія прадпрымальнікі. Асноўным, што прымусіла мясцовых камэрсантаў пайсьці на падобную форму пратэсту, стала ўвядзеньне новага мытнага збору за прадукцыю трэціх краінаў, якія ўвозяцца ў Беларусь з Расеі. У Верхнядзьвінску на рынку ў асноўным рэалізуецца тавар турэцкай ці кітайскай вытворчасьці. Мытнае новаўвядзеньне сур'ёзна падрывае бізнэс дробных гандляроў, бо звыклы тавар, але ўжо амаль у паўтары разы даражэйшы, у зьбяднелым райцэнтры мала хто наважыцца набываць. З гэтай нагоды ў раённых уладаў узьнікла сур'ёзная заклапочанасьць, бо з-за распачатага страйку бюджэт не далічыцца значных паступленьняў.

### У ВІЦЕБСКУ ЗАБАРОНЕНА АКЦЫЯ ПРАТЭСТУ МОЛАДЗІ

Віцебскія гарадзкія ўлады забаранілі акцыю Пратэсту моладзі «Моладзь за Беларусь», што плянавалася шэрагам маладзвых арганізацыяў г. Віцебска. 12-га лістапада 2000 г. у рэчышчы агульнанацыянальнай акцыі пратэсту «Моладзь за

перамены» ў Віцебску мусілі прайсьці шэсьце і мітынг. Аднак гарадзкія ўлады не далі санкцыі на правядзеньне мерапрыемстваў, спаслаўшыся на шэраг парушэньняў пры падрыхтоўцы акцыі з боку арганізатараў. У сувязі з гэтым ініцыятары мерапрыемстваў - сябры віцебскага аддзяленьня «Маладога Фронту» - 10-га лістапада прынялі заяву:

«У сувязі з забаронай акцыі «Моладзь за Беларусь», што была прызначана на 12 лістапада 2000 г. Віцебская Рада маладзёвага грамадзкага аб'яднаньня «Малады Фронт» заяўляе: улады чарговы раз паказалі сваё сапраўднае стаўленьне як да маладзёвых недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў, так і да праблемаў моладзі

ўвогуле. Мала таго, што маладыя людзі зараз пазбаўлены ўсялякай падтрымкі з боку дзяржавы, ім яшчэ і забараняюць адкрыта выказвацца па праблемах, якія іх хвалююць. Таму мы выказваем сваю рашучую нязгоду з рашэньнем, якое прыняла віцебская выканаўчая ўлада. Мы заяўляем, што будзем рашуча змагацца за правы, свабоды і паляпшэньне эканамічнага стану беларускай моладзі.»

### ЖЫХАРЫ БЕЛАРУСКІХ РЭГІЁНАЎ МУСЯЦЬ ВЕДАЦЬ СВАЕ ПРАВЫ

Школа Правоў Чалавека, што ў Віцебску, пачынае сэрыю адукацыйных сэмінараў для жыхароў вобласьці. Кіраўніцтва школы заяўляе, што распрацаваны імі курс найбольш поўна - у параўнаньні зь іншымі беларускімі крыніцамі - выкладае пытаньні правоў чалавека. За час дзейнасьці Школы поўны курс заняткаў у ёй праслухалі 80 студэнтаў віцебскіх ВНУ й актывістаў маладзёвых аб'яднаньняў.

### У ВІЦЕБСКУ АДЗНАЧАЛАСЯ ГАДАВІНА СЬМЕРЦІ ЯЗАФАТА КУНЦЭВІЧА

12 лістапада ў Віцебску адзначалася гадавіна са дня сьмерці Язафата Кунцэвіча. Роўна 377 гадоў таму сьвятар уніяцкай царквы Язафат быў забіты разьюшанымі праваслаўнымі жыхарамі гораду за сваю веру. Каталіцкая царква кананізавала Язафата і абвясьціла яго сьвятым. У катэдральным саборы Сьвятой Барбары з гэтай нагоды былі праведзеныя сьвяточныя мерапрыемствы. На іх прысутнічалі прадстаўнікі дыпляматычнага корпусу, пасол Італіі, консул Францыі і прадстаўнік пасольства Польшчы ў Беларусі. Ад прэфэкта кангрыгацыі Ўсходніх цэркваў пры Ватыкане кардынала Ахілеса Хільвэрсьтыні прыйшло пасланьне зь віншаваньнямі. У Віцебск прыбылі пілігрымы з усіх абласных цэнтраў Беларусі й Менску, а таксама зь іншых гарадоў. Сьвяткаванне пачалося з канцэрту, пасьля якога адбылася архіярэйская служба. У ёй узялі ўдзел больш чым 30 біскупаў і сьвятароў. Свае вершы чытаў паэт Рыгор Барадулін. Бард Алесь Камоцкі выканаў уласныя песьні. Удзельнікі сьвята паднялі бел-чырвона-белы сьцяг, які, праўда, потым паппрасілі схаваць. У саборы быў разгорнуты лёзунг «Сьвяты Язафат, барані Беларусь!». Гадавіну са дня сьмерці сьвятара адзначылі й сябры віцебскай арганізацыі Малады Фронт. Каля 20 чалавек прайшліся са сьвечкамі ад плошчы Леніна да Усьпенскай гары, зь якой і быў скінуты Азафат Кунцэвіч. Мерапрыемствы, прысьвечаныя гадавіне сьмерці Язафата Кунцэвіча, праводзіліся ў Віцебску ўпершыню.

### ЦЫКЛЬ СЭМІНАРАЎ «ВЫБАРЧАЕ ПРАВА І СВАБОДА СЛОВА»

Беларуская Арганізацыя Працоўных Жанчынаў ладзіць сэрыю адукацыйных сэмінараў «Выбарчае права й свабода слова». Першыя лекцыі новага цыклю прайшлі ў Воршы. Мэты лекцыяў - азнаёміць людзей з нарматыўнымі актамі ў выбарчай сфэры й падрыхтаваць назіральнікаў на будучыя прэзыдэнцкія выбары. Да лектарскае працы мяркуецца прыцягнуць вядомых правазнаўцаў - адмыслоўцаў у выбарчым праве.

### У ВІЦЕБСКУ АЖЫВАЮЦЬ АБЛІЧЧЫ ЗАБЫТЫХ ПРОДКАЎ

На мінулым тыдні ў Віцебскім музэі Марка Шагала распачала працу выстава «Твары забытых продкаў». На ёй можна ўбачыць фотаздымкі габрэйскіх сем'яў, зробленыя ў розных гарадох Расеі ў канцы мінулага - пачатку XX стагодзьдзя, візытоўкі, запрашэньні і г.д. Выставу арганізуе віцебскі культурны цэнтар «Мішпоха» пры падтрымцы габрэйскага разьмеркавальнага камітэту «Джойнт».

### ПРАДСТАЎНІКІ БНФ - НА ЗЬЕЗЬДЗЕ НАРОДНАГА ФРОНТУ АЗЭРБАЙДЖАНА

На зьезьдзе Народнага Фронту Азэрбайджана, які адбыўся 28-29 кастрычніка, прысутнічаў намесьнік старшыні БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ Алесь Бяляцкі.

Сп. Бяляцкі выступіў з прывітальным словам на зьездзе Партыі Народнага Фронту Азэрбайджана. Выступоўца адзначыў, што мэты беларускага й азэрбайджанскага Народнага Фронту фактычна адзіныя. «Мы, як партыі, адстойваем незалежнасьць сваіх краінаў і аднолькава выступаем за інтэграцыю ў эўрапейскія структуры, у цывілізаваную эўрапейскую супольнасьць» - адзначыў намесьнік старшыні БНФ. Ягонае слова было вельмі цёпла сустрэта азэрбайджанскімі калегамі.

Свой выступ сп. Бяляцкі скончыў лёзунгам азербайджанскіх апазыцыянэраў - «Пераможа народ! Пераможа нацыя! Мы пераможам!» - на азэрбайджанскай мове.

Падчас візыту былі праведзеныя перамовы з кіраўніцтвам Партыі Народнага Фронту Азэрбайджана наконт будучага эканамічнага супрацоўніцтва ў выпадку зьменаў палітычных рэжымаў. Беларусь зацікаўленая ва ўзаемных кантактах з той прычыны, што Азэрбайджан - краіна багатая на нафту і зьяўляецца важным стратэгічным партнэрам для маладых эўрапейскіх краінаў. Прадстаўнікі БНФ і НФА знайшлі поўную згоду ў гэтых пытаньнях.

Сёньняшняя агульнапалітычная сытуацыя ў Азэрбайджане падобная на беларускую, хоць аўтарытарная ўлада прэзыдэнта Гейдара Аліева (былога генэрала КДБ) абмежаваная шэрагам дэмакратычных нормаў. У краіне існуе больш дэмакратычная за беларускую выбарчая сыстэма, партыі могуць браць удзел у палітычным жыцьці рэспублікі, што дае штуршок і матывацыю для існаваньня і разьвіцьця палітычных партыяў.

Народны Фронт Азэрбайджана - найбуйнейшая апазыцыйная партыя ў краіне. Яна налічвае некалькі дзясяткаў тысячаў чалавек (пры агульнай колькасьці жыхароў 8 мільёнаў).

НФА супрацоўнічае зь іншымі дэмакратычнымі партыямі ў нядаўна створаным Дэмакратычным кангрэсе - аб'яднаньні дэмакратычных сілаў. У Кангрэс ўваходзяць таксама партыі «Азадлыг», «Гэйрад», «Мусават».

Зьезд партыі праводзіўся ў напружанай атмасфэры, бо пасьля сьмерці кіраўніка Фронту Абульфаза Эльчыбея трэба было абраць новага старшыню. Новым лідэрам быў абраны былы намесьнік у арганізацыйных пытаньнях Мірмахмуд Фатаеў.

### ЭЎРОПА АБЯЦАЕ ПАДТРЫМКУ СПРАВЕ ДЭМАКРАТЫІ І НЕПРЫЗНАНЬНЕ «ПАЛАТЫ»

Лідары аб'яднанай беларускай апазыцыі пачалі плянавы візыт у асноўныя эўрапейскія сталіцы. Вінцук Вячорка (Партыя БНФ), Анатоль Лябедзька (АГП), Аляксей Кароль (БСДП) і Андрэй Саньнікаў (Хартыя'97) сустрэліся 13 лістапада ў Парыжы з кіраўніцтвам дэпартамэнту Ўсходняй Эўропы французскага МЗС. У гэты ж дзень беларускія дэмакратычныя лідары ў Брусэлі спаткаліся з камісарам Эўрапейскага Зьвязу зь міжнароднай палітыкі Крысам Паттэнам.

Сп. Паттэн высока ацаніў факт адзінства беларускай апазыцыі і падкрэсьліў, што Эўразьвяз будзе працягваць уціск на рэжым Лукашэнкі для правядзеньня свабодных прэзыдэнцкіх выбараў у 2001 годзе. Гэтак званая палата прадстаўнікоў ня будзе прызнаная Эўразьвязам, запэўніў К. Паттэн і паабяцаў падтрымку Эўропы справе дэмакратыі ў Беларусі, а таксама правёў паралель між Беларусьсю й Сэрбіяй.

14 лістапада беларускія апазыцыйныя лідары накіраваліся ў Бэрлін.

У падборцы скарыстаная інфармацыя:
Беларуская Асацыяцыя Рэсурсавых Цэнтраў. BARC_List NEWS (barc@user.unibel.by).
Цэнтар «Вежа» (Берасьце) - e-mail: vezhain@brest.unibel.by.
Прэсавая група БНФ (email: press@cscsc.lingvo.minsk.by).
Кантакт-цэнтар (Крычаў) - e-mail: Kontakt-centr@mogilev.unibel.by.
ЦМІ «Контур» (Віцебск) - e-mail: kontur@vitebsk.net.











# РЭТРАСПЭКЦЫІ НАЗІРАНЬНЯ

***Берасьцейшчына, год 2000.***

Незалежная група па маніторынгу выбараў у Берасьцейскім рэгіёне канстатавала канкрэтныя факты парушэньняў заканадаўства ня толькі пры вылучэньні кандыдатаў, але й пры правядзеньні галасаваньньня. У складзе незалежнай групы былі пераважна прадстаўнікі арганізацыяў Трэцяга сэктару.

І ў першым, і ў другім туры галасаваньня адзначыліся парушэньні, якія можна ацэньваць як супярэчнасьці існуючаму заканадаўству. У прыватнасьці, канстатаваўся кантроль выканаўчых органаў над выбарчай кампаніяй: прадстаўнікі выканкамаў, напрыклад, Лунінецкага (сп. А.І.Воўчык), паводле меркаваньня назіральнікаў, умешваўся ў працу акруговай выбарчай камісыі.

Пры датэрміновам галасаваньні выбаршчыкаў прымушалі галасаваць. Такія факты мелі мейсца пераважна ў сельскай мясцовасьці, дзе да састарэлых сялянаў кіраўнікі выбарчых камісіяў прыходзілі з урнамі і загадвалі галасаваць ня толькі за сябе, але й за жонак і дзяцей; у самім жа Берасьці некаторыя выбаршчыкі не знаходзілі ў сьпісах сваіх прозьвішчаў.

Амаль паўсюдна канстатавалася агітацыя супрацоўнікамі камісіяў за канкрэтных кандыдатаў; урны для галасаваньня ў асобных выпадках не былі апячатаныя...

Варта адзначыць, што на Берасьцейшчыне менавіта сябры недзяржаўных арганізацыяў праводзілі назіраньне ня толькі найбольш беспрыхільна, але й найбольш жорстка. Яны, стварыўшы сваю Незалежную групу, паставіліся да гэтай справы надзвычай сур'ёзна. Паводле меркаваньня прадстаўнікоў групы, каб па ўсёй Беларусі Трэці сэктар, а ня толькі палітычныя партыі, праявіў да маніторынгу выбараў такі падыход, вынікі іх былі б зусім іншымі.



## ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МЭДЫЦЫНЫ

Суполка ЗБС Менскага мэдычнага інстытуту ды Асацыяцыя Беларускіх Мэдыкаў распачынаюць Рэспубліканскі конкурс студэнцкіх твораў імя Францішка Савіча па гісторыі беларускай мэдыцыны і мэдычнай адукацыі для студэнтаў-мэдыкаў ды навучэнцаў мэдычных вучэльняў.

Да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца літаратурныя, мастацкія ды музычныя творы студэнтаў і навучэнцаў па наступных намінацыях:

- *Гісторыя мэдыцыны Беларусі.*
- *Разьвіцьцё мэдычнай адукацыі на Беларусі.*
- *Слынныя постаці беларускіх мэдыкаў.*
- *Плюсы выкарыстаньня беларускае мовы ў сфэры мэдыцыны.*
- *Беларуская народная мэдыцына.*

Працы прымаюцца з 1 .11.2000 году да 31 сакавіка 2001 году.

***Патрабуюцца наступныя зьвесткі пра аўтара(ў):***

Імя ды прозьвішча; Навучальная ўстанова, курс, спэцыяльнасьць; Кіраўнік працы (калі быў); Кантактны адрас і тэлефон.

У красавіку кваліфікаванае журы, у якое ўваходзяць выкладчыкі мэдычных ВНУ, навукоўцы, літаратары і іншыя аўтарытэтныя асобы, вызначыць аўтараў лепшых працаў.

Завершыцца конкурс правядзеньнем выніковай аднадзённай канфэрэнцыі, якая зьбярэ ўдзельнікаў конкурсу ды ўсіх зацікаўленых студэнтаў, дзе выступяць аўтары лепшых працаў і адбудзецца ўзнагароджаньне пераможцаў каштоўнымі падарункамі. Шмат прыемных сюрпрызаў ды неабмежаванае задавальненьне арганізатары гарантуюць.

Больш падрабязныя зьвесткі пра конкурс па наступных каардынатах:

Тэл/факс (8 017) 232 27 43 (Андрэй Вітушка ці любы сябра суполкі ЗБС МДМІ). А/с 493, 220050, Менск. Вул. Дарашэвіча 4-2, 220013, Менск. тэл. (8 017) 236 18 77 – Андрэй Вітушка.

e-mail: mdmi@bsa.org.by

***Старшыня суполкі ЗБС МДМІ Андрэй Вітушка***

## «ДЫЯРЫЮШ» ЗЬБІРАЕ ЗЬВЕСТКІ ПРА АМЭРЫКАНСКІХ ПАЛОННЫХ

Па прозьбе Аб'яднанага Камітэту па пошуку і абароне зьніклых бязь зьвестак ваеннапалонных Злучаных Штатаў Амэрыкі грамадзкае аб'яднаньне «Дыярыюш» прымае ўдзел у пошуку інфармацыі пра амэрыканскіх грамадзянаў, што зьніклі падчас ІІ Сусьветнай вайны і ў наступныя дзесяцігодзьдзі. З гэтай нагоды «Дыярыюш» зьвяртаецца да ўсіх, хто штосьці ведае пра амэрыканцаў, якія патрапілі на тэрыторыю былога Савецкага Саюзу і загінулі тут ці ўтрымліваліся ў лягерах і турмах, паведаміць пра гэта.

Любыя дакумэнты, асабістыя рэчы, а таксама паведамленьні, зьвязаныя са зьнікненьнем амэрыканцаў, будуць зь вялікай удзячнасьцю прынятыя сем'ямі, што цягам доўгіх гадоў нічога ня ведалі пра лёс сваіх зьніклых бацькоў, мужоў, сыноў, братоў.

Загадзя выказваем глыбокую ўдзячнасьць за любую дапамогу і просім інфармацыю дасылаць на адрас: ***а/я 128, 220064, Минск. Кант. тэл. (8-017) 2436751. office@dyjaryush.org.by***

## ПАДТРЫМКА ЭКАЛЯГІЧНЫХ ПРАЕКТАЎ

У Менскім рэспубліканскім экалягічным цэнтры прайшла прэзэнтацыя Праграмы ISAR (Ініцыятыва ў падтрымку грамадзкай дзейнасьці і адраджэньня ў Эўразіі) «Захавай росы белыя». Праграма ISAR «Захавай росы белыя» фінансуецца Агенцтвам ЗША па міжнароднаму разьвіцьцю (USAID) і мае за мэту спрыяньне разьвіцьцю грамадзянскае супольнасьці праз падтрымку экалягічных праектаў.

***Праграма прадугледжвае гранты двух тыпаў:***

- звычайны (да $2000),
- дыскрэтны (да $500) - на выкананьне праектаў, якія патрабуюць тэрміновага фінансаваньня.

Заяўкі на атрыманьне грантаў прымаюцца на адрас: аб.скрынка 89, 220088, Менск, Беларусь, «для заявак у ISAR». Па электроннай пошце заяўкі не прымаюцца, бо патрэбна завераньне пячаткаю арганізацыі-заяўніцы.

***Тэрмін падачы заявак на звычайны грант:***

- не пазьней за 15 сьнежня 2000 г. (для разгляду 20.01.2001)
- не пазьней за 16 лютага 2000 г. (для разгляду 17.03.2000)

Заяўкі на дыскрэтны грант разглядаюцца зь 15 лістапада 2000 г. Тэрмін разгляду - да 14 дзён з даты атрыманьня заяўкі. Кансультацыю ў пытаньнях праграмы можна атрымаць у Кіеўскім прадстаўніцтве ISAR: Тэл. (380-44) 269-8542, e-mail: isar@isar.kiev.ua

## ШКОЛА НЕЗАЛЕЖНАГА ВЫДАЎЦА

Цэнтар "Выдавецкая ініцыятыва" праводзіць набор слухачоў у "Школу незалежнага выдаўца".

У сваёй школе мы прапануем новы падыход да прынцыпаў і накірункаў навучаньня. Канцэптуальна мы зыходзім зь ідэі, што ва ўмовах малага выдавецтва такія паняцьці як рэдактар, карэктар, журналіст, фотакарэспандэнт, стыльрэдактар, дызайнэр, шыхтоўшчык і г.д. страчваюць сваю адасобленасьць, якая безумоўна апраўдана ва ўмовах вялікага выдавецтва. Досьвед паказвае, што ўсе ўдзельнікі такой малой выдавецкай групы павінны быць унівэрсаламі, валодаць практычна ўсімі вышэйпералічанымі спецыяльнасьцямі, а па магчымасьці ведаць увесь працэс падрыхтоўкі выданьня, пачынаючы ад збору інфармацыі і сканчаючы друкам і распаўсюдам. Асабліва гэта датычыцца галоўных рэдактароў. Толькі пры выкананьні гэтых умоваў тыя некалькі чалавек, якія ўзяліся арганізаваць выданьне маюць шанцы не абмежавацца выпускам двух-трох безнадзейных нумароў.

Мы ставім перад сабой наступныя задачы, якія зьбіраемся вырашыць падчас правядзеньня курсаў:

- Падрыхтоўка да таго ўзроўню, калі атрыманыя веды дадуць магчымасьць

правільна падысьці да арганізацыі выдавецтва і дазволяць працягнуць далейшую прафэсійную падрыхтоўку як самастойна, гэтак і на іншых, больш спецыялізаваных курсах;

- Выпрацоўка навыкаў комплекснага вырашэньня праблемаў выдавецтва, разуменьня таго, што выдавецтва - гэта сукупнасьць узаемазалежных праблемаў і задачаў.

***Умовы:***

Навучальны курс аб'ёмам 80 гадзін, працягласьць – 10 дзён.

Навучаньне бясκоштнае. Праезд за кошт навучэнцаў. Прадастаўляецца месца для пражываньня. Кожнаму ўдзельніку аплочваецца самастойнае харчаваньне на весь тэрмін навучаньня.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць праз кантактны тэлефон. Усе жадаючыя навучацца ў "Школе незалежнага выдаўца" павінны запоўніць пададзеную ніжэй анкету і даслаць яе на адрас Цэнтра "Выдавецкая Ініцыятыва".

Для кантактаў: ***tel./fax (017) 231 94 05 (запытаць Зьміцера Вайцэховіча), e-mail: vi@cvi.lingvo.minsk.by***

## "СТРАТЭГІЯ ПЛЯНАВАНЬНЯ І ТЭХНІКА ВЯДЗЕНЬНЯ ДЗЕЙНАСЬЦІ Ў АБАРОНУ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА"

***Паважанае спадарства!***

Хэльсынская фундацыя па правох чалавека пачынае рэалізацыю новага праекту: "Стратэгія плянаваньня і тэхніка вядзеньня дзейнасьці ў абарону правоў чалавека".

Гэты праект скіраваны да лідараў студэнцкіх і прафсаюзных арганізацыяў, дзеячаў няўрадавых арганізацыяў і журналістаў незалежных СМІ зь Беларусі.

Мэта праекту – паляпшэньне ўменьня плянаваньня і вядзеньня сумеснай дзейнасьці ў абарону правоў рознымі грамадзкімі арганізацыямі.

***Навучальны цыкль праекту складаецца з трох частак:***

- Навучальнага сэмінару (6 дзён у Варшаве)
- Працы ўдзельнікаў па падрыхтоўцы праектаў далейшай сумеснай дзейнасьці
- Пяцідзённага працоўнага сэмінару ў Варшаве, калі адбудзецца прадстаўленьне, дапрацоўка ды інтэграцыя падрыхтаваных праектаў.

Першы навучальны сэмінар адбудзецца 7-12 сьнежня 2000 года. Заняткі вядуцца на расейскай мове.

Калі Вашая арганізацыя зацікаўленая ўдзелам у гэтым праекце, просім запоўніць фармуляр заяўкі і выслаць яго (лепей за ўсё факсам альбо па электроннай пошце) да 22.11.2000 года.

Да ўдзелу ў праекце будзе запрошана 20 чалавек з розных арганізацыяў на падставе атрыманых заявак. Запрашэньні да ўдзелу будуць высланыя запрошаным асобам да 27.11.2000.

Удзел у праекце бясκоштны. Арганізатары аплочваюць утрымкі праезду, раскватароўку і харчаваньне ўдзельнікаў сэмінараў пры ўмове ўдзелу ва ўсіх заплянаваных занятках.

***Кантакт:*** Тэл.факс (48) (22) 828-10-08, 826-96-50, 826-99-57

***E-mail***: mszymczyk@hfhrpol.waw.pl (для Марэка Шымчыка)

Жаклін Капцішак, каардынатар праграмы "Школа ўменьняў".

Фармуляр заяўкі ды праграму сэмінару можна артымаць у Выканаўчым бюро Асамблеі НДА. Тэл\факс 206-59-09.

## COUNTERPART ALLIANCE FOR PARTNERSHIP IN BELARUS (CAP)

Беларусь, 220123, Менск, вул.В.Харужай 22, пак.1703

Тэл.: (017) 217-7773, 217-7774; Факс: 217-7782; e-mail: helen.cap@nsys.by;

**www.counterpart.org**

*Паважаныя кіраўнікі грамадзкіх арганізацыяў!*

Запрашаем вас і сяброў вашых арганізацыяў узяць удзел у трэнінгах Праграмы Партнэрства Альянсу Каўнтэрпарт.

Для таго, каб патрапіць на трэнінгі Фонда Каўнтэрпарт патэнцыйнаму ўдзельніку неабходна:

- уважліва азнаёміцца з графікам трэнінгаў і кароткай анатацыяй да кожнай з тэмаў;
- абраць для сябе тэму, якая найбольш падыходзіць да вашага досьведу і да праблемаў, якія стаяць перад вашымі арганізацыямі;
- запоўніць анкету-заяўку, якая дадаецца да гэтай абвесткі, і даслаць яе ў офіс Каўнтэрпарт у Менску.

УВАГА: анкету-заяўку запаўняе менавіта той чалавек, які зьбіраецца ўзяць удзел у трэнінгу.

Пасля таго, як анкета-заяўка трапіць у САР і пройдзе конкурсны адбор, трэнэры САР самі зьвяжуцца з удзельнікам і запросяць яго да ўдзелу ў трэнінгу.

**Графік трэнінгаў САР на лістапад-сьнежань 2000 году:**

| Тэмы трэнінгаў | Горад | Даты | Удзельнікі |
|---|---|---|---|
| Напісаньне заяўкі на фінансаваньне | Гомель | 10.11-11.11. | Адказныя за прыцягненьне рэсурсаў, у сувязі з абвяшчэньнем САРам конкурса па праблемах здароў'я |
| Стратэгіі пабудовы сувязяў з грамадзкасьцю | Гародня | 23.11-25.11. | Кіраўнікі НКА |
| Плянаваньне дзейнасьці ў НКА | Бярэсьце | 24.11-26.11. | Кіраўнікі і актывісты НКА, ад якіх залежыць эфэктыўнасьць дзейнасьці НКА |
| Работа з валянтэрамі | Віцебск | 24.11-26.11. | Актывісты НКА, якія кіруюць валянтэрамі і прыцягненьнем новых людзей у НКА |
| Асновы дзейнасьці НКА | Гомель | 14.12-16.12. | Прадстаўнікі НКА, якія ня маюць вялікага досьведу працы ў трэцім сэктары |
| Эфэктыўныя камунікацыі | Магілеў | 14.12-16.12. | Актывісты НКА, адказныя за пабудову ўзаемаадносінаў унутры НКА і дачыненьняў НКА са зьнешнім атачэньнем |
| Пабудова кааліцый | Віцебск | 14.12-16.12. | Актывісты НКА, якія будуюць адносіны НКА з групамі, структурамі, арганізацыямі |
| Эфэктыўнае разьвіцьцё людзкіх рэсурсаў | Гародня | 14.12-16.12. | Кіраўнікі НКА, якія распрацоўваюць і ажыцьцяўляюць стратэгіі па развіцьцю людзкіх рэсурсаў у НКА |

*З пытаньнямі звяртайцеся ў Прадстаўніцтва САР у Менску*

*Тэл: (017) 217-77-73/74; факс: 217-77-82; e-mail: helen.cap@nsys.by*

*Шчыра дзякуем за супрацоўніцтва!*

### ЗАЯЎКА ДЛЯ ЎДЗЕЛУ Ў ТРЭНІНГУ ФОНДА КАЎНТЭРПАРТ

*Паважаныя сябры грамадзкай арганізацыі!*

Для ўдзелу ў трэнінгу Фонда Каўнтэрпарт неабходна запоўніць гэтую анкету-заяўку і даслаць яе на офіс Прадстаўніцтва Фонда Каўнтэрпарт у Менску факсам (017) 217-77-82 ці электроннай поштай helen.cap@nsys.by ці лістом на адрас: 220123, г.Менск, вул. В.Харужай 22, офіс 1703. Калі Вашая заяўка пройдзе адборачны конкурс, з Вамі зьвяжуцца трэнэры Фонду Каўнтэрпарт зь непасрэдным запрашэньнем на абраны Вамі трэнінг..

Назва арганізацыі ______________________ Год заснаваньня ____________

Паштовы адрас арганізацыі ______________________

Прозьвішча, Імя ______________________

Пасада ў арганізацыі ______________________ Стаж працы ў арганізацыі ____________

Паштовы адрас удзельніка ______________________

Тэлефон, факс, e-mail ______________________

Тэма трэнінгу ______________________

1. Як Вы ацэньваеце сваі веды ў галіне тэматыцы трэнінга? (абвесьці)

   Вельмі малыя   Малыя   Сярэднія Вялікія   Вельмі вялікія

2. Якія пытаньні ці цяжкасьці прымушаюць Вас узяць удзел менавіта ў гэтым трэнінгу?

______________________

3. Якія аспэкты гэтага трэнінгу прадстаўляюць для Вас найбольшую цікавасьць?

______________________

4. Што Вы спадзяецеся зьмяніць у арганізацыі, выкарыстоўваючы веды і ўменьні, якія Вы атрымаеце на трэнінгу?

______________________

5. Што яшчэ важна ведаць трэнэрам, каб плянуемы трэнінг быў для Вас сапраўды карысным?

______________________

*Шчыра дзякуем Вам за дапамогу, якая дазволіць нам больш якасна падрыхтаваць гэты трэнінг!*

# «ПОЛЬШЧА - ПРЫЯЗНАЯ СУСЕДКА БЕЛАРУСІ»

Амбасада Рэспублікі Польшча і Польскі Інстытут у Менску абвяшчаюць конкурс для журналістаў «Польшча - прыязная суседка Беларусі» на самыя цікавыя артыкулы, радыё- і тэлеперадачы, прысьвечаныя польска-беларускім стасункам, магчымасьцям супрацоўніцтва, а таксама гісторыі, культуры і грамадзка-палітычным зьменам у Польшчы. Умовай удзелу ў конкурсе зьяўляецца прадстаўленьне да 15 сьнежня бягучага году ў польскую Амбасаду копіі публікацыі ці гуказапісу перадачы з паметкай пра дату апублікаваньня альбо трансьляцыі, а таксама з указаньнем свайго нумару тэлефона.

Узнагароды: 1-е месца - 300 даляраў ЗША, 7 заахвочвальных прэміяў - па 200 даляраў ЗША.

Зьвяртацца на адрас: 220034, Менск, вул. Румянцава, 6.

Даведкі па тэлефонах: 213-41-14, 213-43-13.

**Грамадзкае аб'яднаньне «Хрысьціянскае сяброўства дарослых і моладзі»**
правяло 31 кастрычніка ў Гародні прэзэнтацыю праграмы ўладкаваньня моладзі ў летнікі ў ЗША. Удзел у гэтай праграме могуць браць юнакі і дзяўчаты ва ўзросьце ад 19 да 30 год, якія добра валодаюць ангельскай мовай. Дадатковую інфармацыю наконт магчымасьці ўдзелу ў праграме можна атрымаць у каардынатара праграмы па Беларусі сп. Аляксандра Драчука па тэл. 8-01561-56-1-03 альбо 57-8-42, e-mail: ymca_bel@yahoo.com

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ ЭКАЛЯГІЧНАГА РУХУ

*Шаноўныя сябры!*

Рэдакцыйная калегія па падрыхтоўцы інфармацыйнага бюлетэню грамадзкага экалягічнага руху Беларусі (у рамках праекту Milieukontakt Ost-Europa) зьвяртаецца да ўсіх экалягічных арганізацыяў з прапановай дасылаць свае матэрыялы ў бюлетэнь, першы нумар якога мае выйсьці ў сьнежні. Вы можаце даслаць інфармацыю для разьмяшчэньня ў адной з рубрыкаў:

1. Мы і сьвет (глябальныя працэсы і іх пэрспэктывы для Беларусі, грамадзкі экалягічны рух Беларусі ў рамках глябальных працэсаў)
2. Нашы праекты (прэзэнтацыя праектаў з рэгіёнаў)
3. Экаасьвета
4. Запаветны край
5. Ня будзь абыякавы
6. Наш каляндар (анонс міжнародных і мясцовых падзеяў, фонды і праграмы для Беларусі)
7. Безназоўнае (цікавыя факты, лічбы, парады)

Калі Вашыя матэрыялы ня будуць надрукаваныя ў першым нумары, яны будуць выкарыстаныя для падрыхтоўкі наступных нумароў. Тэрмін падачы матэрыялаў - не пазьней за 10 лістапада г.г.

Матэрыялы накіроўваць на адрас:
МГА «БУРЭНКА»
вул. В.Харужай, 16
220123 Минск
факс 234 71 57
e-mail: burenco@ user.unibel.by

Наш адрас:

**п/с 82, Менск, 220030**

**Калі вы не атрымоўваеце наш бюлетэнь, а жадаеце гэтага – дашліце купон на наш адрас.**

Арганізацыя: ____________________

Імя: ____________________

Паштовы адрас: ____________________

____________________

Тэлефон: ____________________

E-mail: ____________________

Бюлетэнь №7
[illegible] 2000

Матар'ялы падрыхтаваны
Выканаўчым Бюро
Асамблеі Дэмакратычных
Няўрадавых Арганізацыяў

Адрас: п/с 82, Менск. 220030
E-mail: ngo@user.unibel.by
http//ngo.unibel.by

Наклад 299 асобнікаў
Выходзіць раз на месяц
Распаўсюджваецца бясплатна